# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 12 (741) ● 1 красавіка 1994 г. ● Цана 25 руб.

# Патрыяршы Экзарх Заходняй Еўропы наведвае храм беларускай навукі



У вялікай канферэнц-зале Акадэміі навук Беларусі адбылася сустрэча з главой праваслаўных цэркваў Заходняй Еўропы, мітрапалітам Швейцарскім Дамаскінам.

Высокага госця сустракалі Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі разам з іншымі праваслаўнымі дзеячамі. З боку прэзідыума АНБ прысутнічалі віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Р. Г. Гарэцкі, Галоўны вучоны сакратар А. М. Ганчарэнка і інш.

З уступным словам выступіў акадэмік Гарэцкі. Ад імя прэзідыума АНБ, усіх прысутных ён сардэчна павітаў такіх высокіх гасцей і пажадаў ім прыемнага знаходжання ў галоўным храме беларускай навукі. Затым Радзім Гаўрылавіч прадставіў сабраўшымся госця са Швейцарыі. Уладыка Дамаскін з'яўляецца першым мітрапалітам Швейцарскай Мітраполіі, кіраўніком сусветна прызнанага Праваслаўнага Цэнтра ў Шамбезі (Жэнева), кіраўніком Сакратарыята па падрыхтоўцы Святога і Вялікага Сабору Праваслаўнай Царквы, Прэзідэнтам Нарады Еўрапейскіх Цэркваў. У свой час ён быў прыняты ў Міжнародную Акадэмію тэалагічных навук, абраны членам Таварыства еўрапейскай культуры, ганаровым членам фонду ПРА АРЫЕНТЭ за адзінства хрысціян, ганаровым доктарам навук Праваслаўнага Багаслоўскага інстытута ў Бухарэсце, Белградзе, Афінах, Рымска-каталіцкага Багаслоўскага інстытута ў Боне, членам-карэспандэнтам Афінскай Акадэміі навук і шэрагу іншых. За свой уклад у міжправаслаўныя адносіны ўзнагароджаны шматлікімі ардэнамі...

Напачатку сваёй прамовы Уладыка Дамаскін падзякаваў прэзідэнту АН РБ Л. М. Сушчэню, запрасіўшага яго ў такую высокую навуковую ўстанову, віцэ-прэзідэнту акадэміі Р. Г. Гарэцкаму за арганізацыю сустрэчы. Затым госць са Швейцарыі прачытаў лекцыю «Рэлігія і грамадства ў сучаснай еўрапейскай рэчаіснасці», больш падрабязна спыніўшыся на праблеме «праваслаўе і Балканы».

Мітрапаліт Жэнеўскі адзначыў, што праваслаўная царква аказалася ўцягнутай у складаныя палітычныя і рэлігійныя працэсы, што працякаюць зараз у посткамуністычных дзяржавах Усходняй Еўропы. Распальванне нацыяналістычных і канфесійных канфліктаў прывяло да распаду СССР, Югаславіі, Чэхаславакіі. Актыўна садзейнічала гэтаму і палітыка еўрапейскага супольніцтва, якое прытрымліваецца рымска-каталіцкай арыентацыі. ЕС заахвочвае любую ініцыятыву, накіраваную на распад балканскіх народаў.

Праваслаўе, падкрэсліў Дамаскін, праводзіць міратворчую палітыку. Але аднаўленне ва ўсходнееўрапейскіх краінах рэлігійных свабод выявіла іх старыя векавыя супярэчнасці, што значна паслабіла ролю праваслаўя ва ўрэгуляванні міжнацыянальных канфліктаў.

Закрануў выступаючы і палітыку Ватыкана ў адносінах да былых сацыялістычных краін. На яго думку, рымска-каталіцкая царква не супраць запоўніць пакуль існуючы духоўны вакуум у балканскіх краінах, традыцыйна праваслаўных. Падтрымкай уніяцтва ва ўсходнееўрапейскіх краінах (асабліва на Украіне і ў Славеніі) Ватыкан імкнецца паслабіць пахіснуўшыеся пазіцыі праваслаўя. Але ў рымска-каталіцкай царквы няма будучага ў краінах, якія на працягу ўсёй гісторыі былі праваслаўнымі. Праваслаўная царква марудна, але паступова аднаўляе свае пазіцыі сярод балканскіх народаў, страчаныя за гады панавання ў іх камуністычных рэжымаў, зазначыў у канцы Уладыка Дамаскін.

Затым пайшлі пытанні госцю са Швейцарыі. Так, у мітрапаліта запыталі: існуе агульная хрысціянская рэлігія, ці не здаецца вам, што праваслаўная рэлігія з'яўляецца славянскай сепаратысцкай, і чаму яна лічыць сябе лепшай за каталіцкую альбо пратэстанцкую рэлігію? Сутнасць даволі падрабязнага адказу Дамаскіна ў тым, што праваслаўе — не сепаратысцкая рэлігія. Насупраць, гэта рэлігія заклікае да адзінства. Для праваслаўнай царквы раздробленасць хрысціян — крываточывая рана, якая патрабуе неадкладнага лячэння.

Задаваліся іншыя пытанні, якія глава праваслаўных цэркваў Заходняй Еўропы, мітрапаліт Швейцарскі Дамаскін не пакінуў без адказу.

Аляксандр ЮРЫН.
Фота М. МІНКОВІЧА.



*УІЛЬЯМ КЭЛІ:*

# «Не пасаваць перад жыццёвымі цяжкасцямі»

**АБ АЎТАРЫ.** Доктар Уільям Кэлі з верасня мінулага года знаходзіцца ў Мінску, чытае лекцыі па эканоміцы ў БДУ. Яго візіт арганізаваны ў адпаведнасці з Фулбрайтаўскай праграмай урада ЗША. Ён выкладаў у некалькіх амерыканскіх універсітэтах, 14 гадоў працаваў у Інстытуце Бэтэля, апошнія тры гады быў незалежным кансультантам па навуцы, тэхналогіях і эканоміцы замежных краін, уключаючы краіны СНД, Японію і Паўднёвую Карэю.

Рэдакцыя ўдзячная д-ру У. Кэлі за дазвол папярэдняй публікацыі яго матэрыялу, які ў больш поўным выглядзе ён збіраецца надрукаваць у іншым рэспубліканскім выданні.

На маю думку, патэнцыял Беларусі велізарны, але каб яго рэалізаваць, трэба зрабіць істотныя зрухі ў палітычным, эканаміча-упраўленчым і вытворча-прадпрымальніцкім напрамках.

**Палітычныя дзеянні.** Можна думаць, што самая сур'ёзная эканамічная праблема Беларусі — палітычная, бо народ і ўрад не вызначылі, што яны хочуць у будучым: які тып эканомікі, якія адносіны з Расіяй і іншымі краінамі і г. д. Каб вызначыцца, ёсць такі спосаб — у перыяды перадвыбарчых кампаній даваць магчымасць публічна выказвацца прадстаўнікам любых палітычных плыняў. Тады партыі-пераможцы вызначалі б дзяржаўную палітыку да наступных выбараў. Выразнасць, стабільнасць дзяржаўных дзеянняў мела б вынікам паступленне замежных капіталаў у рэспубліку.

**Кіраванне нацыянальнай эканомікай.** Як эканаміст я не бачу, як уступленне ў фінансавы саюз з Расіяй дапаможа ў вырашэнні праблем інфляцыі. У Расіі ж у самой праблемы з грашовай прапановай і з падтрыманнем стабільных цэн. І таму не варта чакаць, што ўзровень інфляцыі пасля ўступлення ў такі саюз знізіцца. («Я люблю свайго старэйшага брата, але я лічу за лепшае самастойна распараджацца сваімі грашыма»).

Некаторыя з маіх беларускіх знаёмых лічаць, што фінансавы саюз з Расіяй дасць Беларусі больш танныя нафту і газ. Я ў гэтым сумняваюся. Я прадбачу, што і Расія пяройдзе на сусветныя цэны на нафту і газ як ва ўнутраным, так і знешнім гандлі. Незразумела, чаму для Беларусі будзе зроблена выключэнне.

Калі б аб'яднанне адбылося, то можна б было чакаць росту цэн на беларускую прадукцыю на сусветным рынку. Падобнае адбылося з ГДР у складзе аб'яднанай Германіі, і яе прамысловасць зведала ў выніку катастрафічнае разбурэнне. Але калі Беларусь пакіне свае грошы, будзе вытрымліваць плаваючы валютны курс, яна можа пазбегнуць падобных праблем.

Я перакананы ў слушнасці палітыкі зніжэння тарыфных бар'ераў з Расіяй, супрацоўніцтва з гэтай краінай. Але фінансавы саюз выклікае ў мяне пэўную апаску.

Беларусь рухаецца да рыначнай эканомікі, ал[illegible] гэта марудна. Я б параіў паскорыць працэсы прыватызацыі і лібералізацыі цэн. Іх непажаданыя вынікі можна было б нейтралізаваць, даўшы магчымасць працаздольным беспрацоўным выконваць (за плату) грамадска-карысныя работы: ачыстка вуліц ад снегу і лёду, афарбоўка і рамонт грамадскіх будынкаў, дапамога ў бальніцах і г. д.

**Дзеянні на ўзроўні прадпрыемстваў.** Мяне запытвалі неаднойчы аб магчымасцях выкарыстання метадаў доктара У. Дэмінга ў Беларусі. Я адказваю на гэта пытанне дадатна. Выкарыстоўваючы яго метады, перадавыя фірмы Японіі, ЗША і іншых краін навучыліся ствараць і экспартаваць буйныя партыі высакаякасных тавараў. Метады Дэмінга заснаваны як на статыстыцы, так і на прынцыпах паслядоўнага ўліку зацікаўленасці ўсіх, хто ўдзельнічае ў выпуску прадукцыі. Упэўнены, што Беларусі варта было б вывучыць яго метады і абмеркаваць іх з заходнімі вучонымі і спецыялістамі.

Я веру, што хутка з'явіцца шмат магчымасцей для супрацоўніцтва Беларусі і ЗША (а таксама і іншых заходніх краін). Я атрымаў задавальненне ад знаходжання ў вашай краіне, я пазнаў многа новага. У выніку я ўжо асабіста зацікаўлены ў сумеснай працы з вашымі вучонымі, спецыялістамі, прадпрымальнікамі і ўпэўнены, што і іншых амерыканцаў гэта зацікавіць у будучым. Я бачу вялікія магчымасці развіцця вашай краіны і настойліва раю жыхарам Беларусі не пасаваць перад сённяшнімі жыццёвымі цяжкасцямі.

# Час праводзіць канферэнцыі

У польскім горадзе Казімеж-над-Віслай прайшла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя па напісанню падручнікаў па гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Над серыяй гэтых падручнікаў працуе творчы калектыў рэдактараў з Беларусі, Украіны, Польшчы і Літвы.

У красавіку 1994 года на базе Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта пройдзе міжнародная канферэнцыя «Праблемы ўмацавання і развіцця міжнародных сувязей вучоных у сучасных умовах». На ёй будуць абмеркаваны навуковыя даклады і паведамленні па такіх пытаннях, як тэндэнцыі дэмакратычнага развіцця і праблемы павышэння эфектыўнасці навукі і адукацыі, праблемы эквівалентнасці і нацыянальнай самабытнасці ў адукацыі і навуцы, разнастайнасць формаў адукацыі і вышэйшай школы: эканамічная забяспечанасць, правы чалавека, улік нацыянальнай спецыфікі. Афіцыйныя мовы канферэнцыі — англійская і руская.

20—21 чэрвеня 1994 года ў Мінску ў рамках Міжнароднага фестывалю фальклору адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя «Фальклор і сучасная культура». На ёй плануецца правесці пленарнае пасяджэнне і круглыя сталы, дзе будуць абмяркоўвацца актуальныя праблемы традыцыйнага фальклору ў кантэксце сучаснай культуры: фальклор і нацыянальнае адраджэнне, фальклор у сучаснай сістэме адукацыі і выхавання, фальклорныя жанры ў сучасным прафесійным мастацтве, фальклорна-этнаграфічныя калектывы як сродак выхавання і развіцця рэгіянальных мастацкіх традыцый, роля народных святаў у развіцці нацыянальных культур, Чарнобыль: праблемы захавання фальклорнай спадчыны.

Алесь БІЦАРУК.

# Адказаў пакуль няма

Амерыканскія вучоныя лічаць, што праграма навуковых даследаванняў павінна прадугледжваць вывучэнне змен, якія адбываюцца ў навакольным асяроддзі, і спосабы ўліку гэтых змен. Яны, у прыватнасці, адзначаюць, што пакуль што адказаў на істотна важныя пытанні, якія датычацца змен клімату і спусташэння азонавага слоя ў стратасферы, няма.

Трэба пашырыць навуковыя даследаванні з мэтай вывучэння ўплыву глабальных змен у акаляючым асяроддзі на здароўе чалавека. Важнае значэнне маюць праблемы захавання разнастайнасці відаў фауны і флоры, прадухілення гібелі лясоў, апустыньвання і эрозіі глебы.

Зараз кліматолагі лічаць, што павышэнне канцэнтрацыі ў атмасферы газаў, якія выклікае парніковы эфект, прыводзіць да пацяплення клімату ў глабальным маштабе. Аднак, сучасныя мадэлі клімату не дазваляюць прадказаць змены клімату ў асобных рэгіёнах і час, калі гэтыя змены могуць адбыцца. З гэтай мэтай неабходна правядзенне даследаванняў воблачнасці і фізікі акіянаў.

Вучоныя, якія вывучаюць атмасферу, устанавілі, як хлорфторвугляроды садзейнічаюць утварэнню азонавай дзіркі над Антарктыдай, але пакуль не знайшлі адказу на пытанне аб тым, чаму адбываецца спусташэнне азонавага слоя ў стратасферы ў Паўночным паўшар'і.

(Па матэрыялах замежнага друку)

ПЫТАННЕ РУБАМ

# «До основанья всё разрушим». А затым?

Ці кожнаму вядома, што на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца звыш 1000 помнікаў археалогіі эпохі жалеза, што наша краіна вельмі цікавая з пункту гледжання археалогіі? Знаходзячыся на скрыжаванні галоўных еўрапейскіх шляхоў, Беларусь пакінула сваім нашчадкам помнікі самых разнастайных культур — заходне- і ўсходнееўрапейскіх, татарскай, балтыйскай і інш.

Цікавая дэталь. За ўвесь час існавання беларускай археалагічнай навукі даследавана толькі дзесятая частка ўсіх помнікаў. Па ўсяму відаць, нашым археолагам работы хопіць яшчэ на доўгі час. Але...

— Ужо трэці год археалагічная навука рэспублікі фактычна не фінансуецца, — гаворыць загадчык аддзела археалогіі эпохі жалеза Інстытута гісторыі АНБ, кандыдат гістарычных навук В. І. Шадура. — Ужо не праводзяцца экспедыцыйныя, палявыя работы. Па меры магчымасцей займаемся ахоўнай справай, якая апошнім часам стала надзвычай актуальнай у сувязі з тым, што працэс разбурэння помнікаў археалогіі набыў пагражальныя тэмпы. Старажытныя курганы зруйноўваюцца пад сельскагаспадарчыя палі, селішчы проста ўзорваюцца. На месцах гарадзішчаў, якія ў большасці сваёй размешчаны на высокіх пагорках, будуюцца пясчаныя кар'еры, заводы і г. д. Карацей кажучы, сітуацыя склалася — пагражальна-крытычная. І патрабуе яна неадкладнага вырашэння. Археолагі хочуць працаваць. Толькі неабходна ім стварыць хаця б мінімальныя ўмовы для даследчай працы...

Пра адраджэнне беларускай культуры гаворыцца сёння на самых розных узроўнях, у тым ліку і на дзяржаўным. Але дзяржаўныя мужы не надта спяшаюцца падмацоўваць свае словы справамі. Што робіцца, каб спыніць працэс разбурэння помнікаў археалогіі калгасамі і будаўнічымі трэстамі? Якія зроблены захады дзеля падтрымання археалагічных даследаванняў, здольных не толькі ўзбагаціць нашу гісторыю раней невядомымі фактамі, але і папоўніць музеі новымі экспанатамі старажытнасці?

Алесь ЮРЫН.

НА ЗДЫМКАХ: загадчык аддзела археалогіі эпохі жалеза В. І. Шадура, навуковы супрацоўнік аддзела Г. С. Скрыпчанка і старшы лабарант А. В. Мотус разглядаюць апошнія археалагічныя здабыткі; гэтым экспанатам ужо звыш дзвюх тысяч гадоў.

Фота М. БУДЧАНІНА.

БАНК ІДЭЙ І ПРАПАНОЎ

# «Ваша распрацоўка ацэнена ў 10.000 долараў. Вось вам адпаведны сертыфікат»

На сусветным рынку тавараў і паслуг інфармацыя (новая, невядомая тым, хто яе купляе) — заўсёды ў цане. Не дзіўна, што кансультанты ўсялякага роду там нядрэнна існуюць. Па сведчанню эканаміста доктара У. Кэлі (ЗША), звычайны заробак амерыканскага кансультанта каля 100 долараў у гадзіну. Гэта значыць, у 5—10 разоў больш за звычайную месячную (!) зарплату беларускага навукоўца.

А між тым, мы не такія ўжо і бедныя. У снежні 1993 года эксперты Руху Беларускі інтэлектуальны рэсурс (БелІР) зрабілі ацэнку вартасці навукова-тэхнічнага патэнцыялу Беларусі і прыйшлі да высновы, што яна «параўнальная з трыльёнам долараў». Крыху пазней, па сутнасці да падобнага вываду прыйшлі і эксперты ААН, якія вывучалі стан навукі і вышэйшай адукацыі ў нашай рэспубліцы. Іх заключэнне: «Многія мільярды долараў».

Такія ж «багатыя бедныя» ёсць і побач з намі. Ліга незалежных вучоных Расіі лічыць, што сукупны навукова-тэхнічны патэнцыял РФ знаходзіцца дзесьці паміж лічбамі 1 трыльён — 1 трыльярд долараў. Возьмем пад увагу розніцу памераў Расіі і Беларусі, і тады можна гаварыць аб узгодненасці ўжо ўсіх трох ацэнак.

Калі ж яшчэ дадаць, што ўвесь свабодны сусветны капітал таксама складае суму каля 1 трыльёна долараў, то цяжка будзе ўстрымацца ад пытання: што ж замінае нам выйсці на сусветны рынак са сваімі багатымі інтэлектуальнымі таварамі?

Каб разабрацца з гэтым пытаннем, трэба папярэдне высветліць:

**Што такое інтэлектуальная ўласнасць?**

Вось спроба дэфініцыі.

ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ ЎЛАСНАСЦЬ — інфармацыйны прадукт (ідэя, гіпотэза, заканамернасць, навукова-тэхнічная распрацоўка, праект, вынаходка, манаграфія, дысертацыя, камп'ютэрная праграма і г. д.), які змяшчае значны элемент навізны, існуе як матэрыяльны аб'ект дзякуючы таму ці іншаму носьбіту (папера, дыскета, фота- ці кінаплёнка, аўдыя- ці відэастужка і г. д.), з'явіўся ў выніку творчай дзейнасці аднаго (аўтар) ці некалькіх (сааўтары) асоб, мае рынкавую вартасць і рынак збыту (хаця б патэнцыяльна).

Нядаўна ў БелІР была сфарміравана творчая група, мэтай якой якраз і з'яўляецца распрацоўка асноў сучаснай тэорыі інтэлектуальнай уласнасці (ІУ). Спадзяюся, што пададзеная дэфініцыя будзе ўзята пад увагу. Творчую групу ўзначаліў доктар эканамічных навук С. В. Курагян, аўтар некалькіх кніг па духоўнай вытворчасці, выхадзец з маскоўскай школы эканамістаў. «Звышзадача» распрацоўшчыкаў — даць тэарэтычныя арыенціры Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці, якая пачала дзейнічаць яшчэ тады, калі не было ні тэорыі інфармацыі, ні кібернетыкі, а рынак інтэлектуальных тавараў быў непараўнальна вужэйшы.

**Ці ёсць сэнс у ваўчэрах на ІУ?**

Такое пытанне зусім заканамернае. Сапраўды, чаму можна прадаць раман ці сімфонію (і атрымаць ганарар), а нельга — прадукты накшталт ідэй і навуковых распрацовак?

А калі ўсё-такі можна, дык нам трэба будзе добра папрацаваць, каб сфарміраваць свой уласны рынак ІУ і выйсці на сусветны як паўнапраўныя партнёры. Вось толькі некаторыя з праблем, якія прыйдзецца пры гэтым вырашыць.

1. Увайсці ў кантакт з міжнароднымі экспертамі, выпрацаваць адзіную аснову для ацэнкі ІУ на сусветным рынку. 2. Падрыхтаваць адпаведныя заканадаўчыя прапановы ў Вярхоўны Савет РБ, якія б зрабілі магчымым узнікненне і станаўленне ўласнага рынку ІУ. 3. Высветліць магчымасці дагавораў і кантрактаў у пераходны перыяд, калі заканадаўчага забеспячэння аперацый з ІУ яшчэ няма. 4. Прапанаваць абгрунтаванае вырашэнне супярэчнасцей паміж наогул калектыўным характарам навуковай дзейнасці і пераважна індывідуальным характарам кожнага асобнага творчага акту. 5. Распрацаваць «прэйскурант» на ІУ, які б прадугледжваў усе магчымыя яе віды і формы, улічваў бы сусветны вопыт, даваў бы арыенціры ўладальнікам ІУ пры іх выхадзе на сусветны і ўнутраны рынкі інтэлектуальных прадуктаў. 6. Зрабіць макеты двух дакументаў — ваўчэра на ІУ (нацыянальны) і сертыфіката на ІУ (міжнародны), з адпаведнай каціроўкай (у беларускіх рублях і ў доларах).

Усё вышэй сказанае будзе мець сэнс толькі тады, калі адказ на пытанне, што стаіць у пачатку гэтай главы, будзе дадатны.

І сацыялагічнае даследаванне тут вельмі было б дарэчы. Добра, каб гэтыя радкі трапілі на вочы супрацоўнікам Інстытута сацыялогіі АНБ, канкрэтна — аддзелу сацыялогіі навукі і яго кіраўніку доктару сацыялагічных навук Г. А. Несветайлаву. Рынкавыя адносіны не сталі ў нас яшчэ звыклымі, і не дапушчаць нават думкі аб адмаўленні ад прыватызацыі ІУ было б прамікам.

**Запрашэнне да супрацоўніцтва**

Вельмі важна, будучы ў пачатку шляху, не пайсці «не туды». Таму неабходна вызначыць менавіта цяпер слушны кірунак. Для гэтага вельмі падыходзіць метад «мазгавога штурму», абмеркавання за «круглым сталом». На жаль, калі вы будзеце чытаць гэтыя радкі, семінар БелІР з цыклу «Беларусь — інтэлектуальная рэспубліка», прысвечаны прыватызацыі інтэлектуальнай уласнасці, будзе ўжо праведзены. Але да гэтых пытанняў мы зможам яшчэ не раз вярнуцца на старонках «Навін». І не толькі. Бо ў БелІР плануецца правесці таксама тэлевізійны «круглы стол» з запрашэннем супрацоўнікаў Нацыянальнага камітэта па навуцы і тэхналогіях, народных дэпутатаў — членаў Камісіі па навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Вярхоўнага Савета РБ, навуковай грамадскасці, вынаходнікаў, журналістаў.

А справы ж намячаюцца вельмі сур'ёзныя. «Калі дапамагчы сёння нашым вучоным сябе праявіць у поўнай меры, — сказаў на сесіі Вярхоўнага Савета народны дэпутат, член-карэспандэнт АНБ і член Савета каардынатараў БелІР В. Г. Ціхіня, — можна ў бліжэйшыя гады вывесці Рэспубліку Беларусь у лік самых развітых інтэлектуальных краін свету».

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ,
намеснік старшыні прэзідыума БелІР, кандыдат фізіка-матэматычных навук.

# Прэзідэнцкі рэжым вачыма прэзідэнта

Прэзідэнт Інстытута дэмакратыі (Парыж) Г. І. Лардэйрэ ў 1992 годзе апублікаваў артыкул «Канстытуцыі і сістэмы выбараў: што кажа гістарычны вопыт», які падагульняе даследаванне інстытута па гэтых пытаннях. Частку артыкула, прысвечаную прэзідэнцкаму рэжыму, мы вырашылі змясціць у газеце. Нам здаецца, што даследаванні аўтарытэтнага французскага вучонага па пытанню прэзідэнцтва будуць не толькі цікавымі, але і карыснымі для беларускага чытача. Згодна з новай Канстытуцыяй, Беларусь стала на шлях прэзідэнцкай рэспублікі...

Адзіны вядомы прыклад прэзідэнцкага рэжыму, які працуе задавальняюча, — гэта Злучаныя Штаты Амерыкі. Вынайдзены амерыканцамі, ён нарадзіўся разам з самой краінай. Прэзідэнт кіруе супольнасцю штатаў з дапамогай сакратароў. Ён мае абмежаваныя паўнамоцтвы, якія тычацца абароны і міжнародных спраў. Ён можа сутыкнуцца з варожасцю Кангрэса, нягледзячы на тое, што выбары прэзідэнта і заканадаўцаў адбываюцца адначасна. Прэзідэнт-рэспубліканец перыядычна вымушаны супрацьстаяць дэмакратычнай большасці ў Палаце Прадстаўнікоў і нават у Сенаце па прычынах, якія тлумачацца размеркаваннем выбарчых акругаў і гісторыяй. Левая ў XIX стагоддзі, у час «крыжовага паходу» на абаліцыяністаў, рэспубліканская партыя змагалася супраць кансерватыўнага Поўдня, які доўгі час заставаўся бастыёнам дэмакратаў. Калі на шахматнай дошцы палітыкі рэспубліканцы перайшлі ў лагер правых, яны адваявалі галасы выбаршчыкаў Поўдня, паклаўшы канец гэтай анамаліі. Сітуацыя не з'яўляецца трагічнай, таму што пры прэзідэнцкім рэжыме няма патрэбы ў строгай партыйнай дысцыпліне ў час галасавання. Парламент і выканаўчая ўлада вымушаны знаходзіць паразуменне, бо не могуць пазбыцца адзін аднаго.

Усе спробы акліматызаваць гэтую сістэму на іншых шыротах — галоўным чынам, у Лацінскай Амерыцы — праваліліся. Калі дэмакратычная традыцыя яшчэ не ўкаранілася, калі палітычныя партыі слабыя і неарганізаваныя, калі ўся ўлада цэнтралізаваная, — усё палітычнае жыццё ў гэткіх умовах канцэнтруецца вакол барацьбы за пасаду прэзідэнта рэспублікі. Адсюль вынікае раздрабненне палітычных сіл на групоўкі, на чале якіх становяцца найбольшыя славалюбы. Фракцыя, якая атрымлівае перамогу, бярэ пад свой уплыў шматлікіх прэтэндэнтаў на ўладу і перашкаджае ўзнікненню аб'яднанай і вартай даверу апазіцыі. Прыхаваны канфлікт паміж кіраўніком выканаўчай улады, абраным на аснове ўсеагульнага выбарчага права, і заканадаўчай уладай, без якой ён не ў стане кіраваць, часцей за ўсё вырашаецца на карысць прэзідэнта. Лацінская Амерыка ў гэтым сэнсе з'яўляецца эксперыментальнай пляцоўкай — тым больш цікавай, што яе палітычная культура блізкая да еўрапейскай.

Выключны выпадак ўяўляе сабой Балівія. Там дзейнічалі ў адпаведнасці з прынцыпам, што самы кароткі шлях да ўлады — гэта выкарыстанне сілы, і таму змена кіраўніцтва аж да нядаўняга часу ў гэтай краіне ажыццяўлялася з дапамогай войска, хоць кроў там пралівалася і не заўсёды. Лічылася прыстойным збіраць атрады сваіх прыхільнікаў і чакаць зручнай нагоды для штурму прэзідэнцкага палаца. Атрымаўшы незалежнасць у 1825 годзе, краіна зазнала прыблізна 168 дзяржаўных пераваротаў і 147 прэзідэнтаў, некаторыя з якіх панавалі ўсяго некалькі гадзін, а рэкордны тэрмін прэзідэнцтва доўжыўся дзесяць гадоў.

Каб захаваць уладу ў гэткіх умовах, недастаткова трымаць пад сваім кантролем войска. Сапраўды, немагчыма кіраваць доўгі час насуперак грамадскай думцы, калі не скарыстоўваць таталітарныя — іншародныя для мясцовай традыцыі — сродкі. Прэзідэнт мае патрэбу ва ўсенароднай падтрымцы. Ён набывае яе праз стварэнне партыі-гегемона, якая атачае дзяржаўныя органы і аплятае сваімі шчупальцамі грамадства. Менавіта гэты метад скарыстаў у суседняй краіне — Парагваі — генерал Стрэснер, які цараваў у ёй 42 гады, што таксама складае рэкорд. Кожныя выбары ператвараліся ў яшчэ адзін плебісцыт. Большасць афрыканскіх рэжымаў функцыяніруюць або спрабавалі функцыяніраваць па гэтай мадэлі.

Забарона на аднаўленне прэзідэнцкага мандата — гэта ўсяго толькі тэатральны жэст. Палітычны эфект ад такой забароны нязначны. Па-першае, гэты артыкул можа быць сказаваны тым, хто дарваўся да ўлады. Аднак часцей гэтая забарона замацоўвае пераемнасць улады за апаратам партыі. Дастаткова на кожных выбарах мець новага, але свайго чалавека на прэзідэнцкай пасадзе. Ратацыя кадраў, такім чынам, дазволіць толькі палепшыць размеркаванне даходаў паміж партыйнымі бонзамі.

Цяпер мы можам зразумець мексіканскі рэжым. Прэзідэнт Мексікі не мае права быць выбраным на другі тэрмін. Канстытуцыйна-рэвалюцыйная партыя кантралюе праз дзяржаўныя органы прывадныя рамяні грамадства. Яна нейтралізуе дысідэнтаў раней, чым тыя паспеюць распачаць спрэчкі вакол яе палітыкі. Дзяржаўныя органы багатыя на сінекуры. Новы прэзідэнт рэспублікі выбіраецца кожныя шэсць год з ліку партыйных іерархаў — і кожны з іх мае надзею пабачыць сябе на гэтай пасадзе. У мінулым дзейнічала няпісанае правіла, згодна з якім выбіралі не заўсёды самага здольнага: гэта адзін са сродкаў абмежаваць прэзідэнцкія паўнамоцтвы. Унутры партыі, аднак, выспявалі крыўды, вынікам чаго стаў пачатак расколу. Мадэль кіравання дала трэшчыну, і сёння Мексіка са сваім высокім эканамічным патэнцыялам дэманструе намер перагледзець сваю палітычную сістэму.

Забарона на другі прэзідэнцкі тэрмін хавае ў сабе яшчэ і такую небяспеку: яна можа прывесці да расколу грамадства і абрання больш знакамітага прэтэндэнта. У 1970 годзе ў Чылі сацыяліст Сальвадор Альендэ, лагодны чалавек і біты воўк, у трохбаковым змаганні з лёгкасцю апярэдзіў канкурэнтаў: малавядомага кандыдата хрысціянскіх дэмакратаў і вельмі пажылога кандыдата кансерватараў. Паколькі ў такіх выпадках у Чылі, як і ў Злучаных Штатах, прэзідэнта прызначае парламент, слабы чылійскі Сход у выніку закулісных здзелак выбраў нават без большасці галасоў Сальвадора Альендэ. Насуперак ранейшым пагадненням з хрысціянскімі дэмакратамі рэжым у краіне пад уплывам экстрэмісцкіх элементаў пачаў усё больш набліжацца да камуністычнага. Далейшыя падзеі нібы нячысцік нагнаў. Сярэдні клас звярнуўся да вайскоўцаў за паратункам. Захапіўшы ўладу, ваенныя адмовіліся рэстаўрыраваць канстытуцыйны парадак, чакаючы, пакуль суцішацца страсці і ачуняе рыначная эканоміка. Чылійская драма часткова была вынікам недасканаласці інстытутаў улады, на што амаль не звяртаюць увагі, але чаго нельга не заўважыць у параўнанні са Злучанымі Штатамі.

## ПАРТРЭТ НА ФОНЕ ЧАСУ

Прызнацца, было страшнавата ў тым музейным аддзеле, які завецца Чарнобыльскім. І зусім не таму, што там сабраны «жывыя» экспанаты з радыёактыўным подыхам тых смяротных гомельскіх мясцін.

Было ніякавата з іншай прычыны. Абдавала холадам пры думцы, што вось гэтыя рэчы — рэшаты, кросны, жорны, ступы, бязмены, рагачы, кадзі, вёдры, цабэркі — яшчэ нядаўна мелі канкрэтных гаспадароў, штодзень былі, гэтак мовіць, у рабоце... І вось — на табе, стаяць асірацелыя, маркотна старэючы, асуджаныя заставацца без цёплых людскіх рук да скону дзён сваіх.

Такое вось уражанне ад выставы, зробленай — літаральна рукамі няўрымслівага Віктара Фёдаравіча Шматава. Бо гэта ён разам з супрацоўнікамі збіраў у зоне, на сваёй радзіме, на Брагіншчыне, у Камарыне і побач і вёз у сталіцу гэтыя рэчы, якія і без сваёй нечакана-негадана набытай «прамяністасці» ўяўляюць вялікую цікавасць для музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АНБ, маюць сапраўднае краязнаўчае значэнне. Дарэчы, усё, што экспануецца ў музеі, не толькі ў тым аддзеле, немагчыма праскочыць не спыняючыся, калі ты чалавек нераўнадушны. Рэчы хатняга ўжытку, строі, паясы, вядома ж, і славутыя слуцкія, старадрукі, што былі выдадзеныя падчас сярэднявечча і рэнесансу, помнікі дойлідства, старадаўнія партрэты, абразы, археалагічныя знаходкі... Арэчаўленая гісторыя Беларусі. Сістэматызаваная, прыведзеная ў парадак усё тым жа нястомным загадчыкам музея Шматавым і ягонымі калегамі.

Гэтак адкрыўся мне Віктар Шматаў пры нашым першым знаёмстве.

* * *

У чарнобыльскім аддзеле — напісаная алеем карціна. Чатыры прыдарожныя крыжы, адзін павалены. Ростані. Фарбы, быццам, непахмурныя, а навявае журбу.

Можа, таму навявае, што карціна тут, у самым канцы экспазіцыі. І пасля прагляду ўсёй чарнобыльскай калекцыі яе ўспрымаеш як сумны вянец бачанага? Ці, можа, прыкметная здалёк, менавіта яна, у колерным кантрасце з астатнімі экспанатамі, узмацняе агульнае ўражанне?

Не ведаю. І няма ахвоты корпацца, аналізаваць. Проста аддаешся пачуццю.

— Чыя работа? — пытаюся, хаця і здагадваюся.

Так, памылкі няма. Гэта яго тварэнне. І другая грань асобы Шматава.

Захапленне яго пачалося яшчэ ў маленстве. Не так, як ва ўсіх. Бо хто з дзяцей не малюе? Па-мойму, такіх дзяцей няма. І Віця маляваў. Ён не ручаецца, што змалку быў ужо вундэркіндам.

Дзіцячы дом, дзе ён пасля вайны знайшоў прытулак, наладжваў для дзяцей культпаходы, экскурсіі. І аднойчы ўвагу Віктара прыцягнула дзіўная постаць з пэндзлем у руцэ. Віктар падышоў і ўжо не мог адарвацца. На яго вачах адбываўся маленькі цуд. На палатне, нацягнутым на падрамнік, нараджаўся краявід, дакладна такі ж, што вісеў на музейнай сцяне. Ён не мог стрымацца і нешта недарэчы спытаў, на што атрымаў раздражнёны адказ мастака, незадаволенага тым, што яго адрываюць ад цалкам паглынуўшай справы.

Усё, што называецца, вырашылася ў тую хвіліну. Аматарскія заняткі маляваннем, свае «вырабы» па заданню дырэктара дзетдома, завуча, педагогаў ён стаў разглядаць як ступені падрыхтоўкі да сур'ёзнай пажыццёвай працы на гэтай ніве.

Мінскае мастацкае вучылішча. Пасля ягонага бездакорнага сканчэння — Тэатральна-мастацкі інстытут. І зноў вучоба. Віктар Шматаў паступае ў аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АНБ.

Гэтая інфармацыя была для мяне яшчэ адным нечаканым аспектам спасціжэння асобы Віктара Фёдаравіча. Ён, аказваецца, не проста мастак, які загадвае чамусьці краязнаўчым музеем. Ён, аказваецца, навуковец.

* * *

Сваю кандыдацкую дысертацыю «Беларуская сатырычная графіка» Віктар Шматаў піша на беларускай мове. Чацвёртая адметная рыса чалавека.

Трэба ведаць, у які час дысертацыя была напісана. Што за такая навіна, здзіўляліся навокал? Хто гэта піша дысертацыі на беларускай мове, за выключэннем вузкага кола спецыялістаў-беларусазнаўцаў? З якога такога ліха прыспічыла хлопцу выпендрывацца? Ну, і што з таго, што пра беларускіх мастакоў? Пра іх можна і на рускай мове пісаць. А яшчэ якім вокам Масква на гэтыя дзівосы зірне? Ох, хлопча, задужа ты смелы. Любіш родную мову? Дык гамані ў сваёй вёсцы. Вельмі ўжо твая выхадка нацыяналізмам патыхае...

Аднак нічога, сышло. Абараніўся. І... дадаў яшчэ адзін яркі колер у сваю характарыстыку.

Мастацтва беларускай старадрукаванай кнігі XVI—XVIII стагоддзяў стала прадметам доктарскай дысертацыі Шматава. І, толькі даведаўшыся пра гэта, зразумеў я, што, вядома ж, не выпадкова, а на зусім законных падставах Віктар Фёдаравіч стаў загадваць інстытуцкім (так і хочацца сказаць: рэспубліканскім — яно ж сапраўды гэтак) краязнаўча-гістарычным музеем. Каму ж яшчэ, як не яму?

Дарэчы, Шматаў — адзіны ў нашым краі выпадак сумяшчэння мастацтвазнаўчай дзейнасці з пастаяннай працай дзеючага і па сёння мастака. А калі не адзіны, дык адзін з рэдкіх. Зрэшты, пра што гаворка, калі дактароў такога профілю наогул няшмат.

У актыве Шматава-мастацтвазнаўцы звыш двухсот публікацый, у тым ліку 13 манаграфій. І зусім невыпадкова ён адзін з першых у рэспубліцы ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны, а сёлета вылучаны на саісканне Дзяржаўнай прэміі.

* * *

У майстэрні мастака — толькі што скончаная праца. На фоне сінявата-свінцовых пагрозлівых цяжкіх хмар крочыць па няроўнай дарозе немаладая жанчына.



На твары — цень горкіх пачуццяў, адлюстраванне гнятлівага роздуму. Слупы, на адным жоўты трохкутнік, які высвечваецца на цёмным фоне карціны кідкай плямкай радыяцыйнай небяспекі. Бяда, людзі, бяда. Не аднадзённая — надоўга.

Карціна пакуль не мае назвы. Мастак шукае. Назву — само сабой. Можа, варта такое ёй і даць найменне, кароткае, бескампраміснае, балючае, як невылечная рана: «Бяда».

А яшчэ ён шукае новыя і новыя дэталі, штрыхі. Што здымае, што выпраўляе, што дадае. Я бачыў добрыя колькі дзесяткаў эскізаў розных твараў, на якіх адлюстроўваліся розныя выразы. Алоўкавыя накіды рук, таксама розных, у розных станах, праўда, заўсёды натруджаных, працавітых рук. І толькі адзіны варунак з усіх эскізаў кожнай часткі цела пасля пакутлівага выбару трапляе на палатно. Самы дакладны. Работа ідзе кожны дзень: дзве гадзіны да службы, колькі ўлезе — пасля службы. Гэтак не толькі над апошняй карцінай. Гэтак усё жыццё. Напісана ж больш за трыста карцін.

Мастацкія палотны Шматава сёння адкрыты для агляду ў многіх рэспубліканскіх музеях, а таксама за мяжой. У канцы мінулага года ў Мінскім палацы мастацтва адбылася яго персанальная выстава.

* * *

Белы колер, пра гэта даведваецца кожны школьнік з курса фізікі, складаецца з сямі рознакаляровых частак. Мне падаецца, што і ў чалавечай асобе можна ўбачыць састаўныя часткі, адценні якіх складаюць пераважны яе колер.

Усё, што ўбачылася ў Віктару Фёдаравічу Шматаве: нязбыўная любоў да радзімы, яе культуры і мовы, ягоны боль за беларускага чалавека, ягоная шчырасць і смеласць, ягоная адданасць даручанай справе, ягоны мастацкі талент і пастаянная цяга да ўдасканалення — складаюць якраз той бок, які не можа не выклікаць павагу людзей.

Нас вабіць, вядома ж, светлае.

Р. ЛЕВІН.

НА ЗДЫМКУ: В. Ф. Шматаў у сваёй майстэрні.

Фота М. БУДЧАНІНА.

